**СОНЦА:**
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 7.01, 19.00, 21.01;
Віцебск — 6.51, 18.50, 11.59;
Магілёў — 6.50, 18.50, 12.00;
Гомель — 6.49, 18.45, 11.56;
Гродна — 7.18, 19.13, 11.55;
Брэст — 7.17, 19.16, 11.59.

**МЕСЯЦ:**
Маладзік 26 верасня

**ІМЯНІНЫ:**
Лявонція, Юльяна, Лук'яна, Валяр'яна, Пятра.

# ЗВЯЗДА

26 ВЕРАСНЯ 1992 г. субота, № 194 (21972)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

# РОЗГАЛАС

## НОВЫЯ ЦЭНЫ НА НАФТУ: АБ УСТУПКАХ І КАРЭКТНАСЦІ

Як мы паведамлялі, дзяржаўны сакратар па справах СНД У. Заламай і начальнік Дэпартамента цэн рэспублікі У. Міхасёў ляталі ў Маскву, каб дамовіцца наконт цэнавых паслабленняў пры пастаўках у Беларусь нафты, захаванні пры магчымасці цяперашняй цаны, якая прадугледжана на сёлетні год адпаведным пагадненнем і можа мяняцца пры ўзаемнай згодзе бакоў.

У. Заламай пры вяртанні з Масквы паведаміў нашаму карэспандэнту наступнае. Дыялог пакуль што працягваецца, і нічога пэўнага сказаць нельга. Разам з тым пункт ва ўказе Б. Ельцына, згодна з якім нас чакаюць унутраныя цэны Расіі на нафту, па сутнасці азначае для нас, а таксама для Кыргызстана (г. зн. для рэспублік, з якімі ў Расіі падпісаны адпаведныя пагадненні) свайго роду ўступку. Для астатніх жа рэспублік цэны будуць сусветныя.

І яшчэ наконт карэктнасці, якую як быццам не захавалі расіяне, бо не было ўказанай вышэй узаемнай згоды. Але ж не зусім карэктна паводзілі сябе і мы, калі займаліся рээкспартам (перапродажам) энерганосьбітаў.

Што было, тое было. Праўда, быў гэты рээкспарт не ад лёгкага жыцця. Ён спатрэбіўся нам пад пастаўкі хлеба, цукру. Словам, энерганосьбіты — гэта той тавар, які адкрывае дарогу любым сустрэчным пастаўкам, валюце...

Аднак варта зрабіць з гэтага два наступныя высновы. Хочам мы таго ці не, але без расійскіх энерганосьбітаў нам пакуль што не абысціся, прычым сусветныя цэны на іх могуць паставіць рэспубліканскую эканоміку амаль што на калені. І, вядома ж, трэба абавязкова ўлічваць гэта ва ўсёй нашай палітыцы, у тым ліку і эканамічнай. Шапказакідальніцкія настроі, якія часам маюць месца ў асобных лідэраў,— тут проста недарэчныя.

І другое. Нам крайне неабходны падобны ж канкурэнтаздольны, з шырокай магчымасцю быць абмененым на іншы прадукт-тавар. Свой, беларускі. Гэта, здаецца, усвядомілі ўжо многія, значыць, трэба і да справы пераходзіць.

**Кар. «Звязды».**

## Аб заканчэнні перыяду дзеяння «летняга часу»

**Белстандарт паведамляе, што ў адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 25 сакавіка 1992 года «Аб парадку вылічэння часу на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь» 27 верасня заканчваецца перыяд дзеяння «летняга часу» ў 1992 годзе.**

**У сувязі з гэтым стрэлкі гадзіннікаў на ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь у 3 гадзіны 27 верасня 1992 года пераводзяцца на адну гадзіну назад.**

## Грамадскае прыняцце прысягі працягваецца

Прэс - цэнтр Беларускага згуртавання вайскоўцаў паведамляе: 26 верасня ў 12.00 у парку імя Янкі Купалы наладжваецца сустрэча з народнымі дэпутатамі РБ. Па ініцыятыве вайскоўцаў запасу адбудзецца акт грамадскага прыняцця вайсковай прысягі на вернасць беларускаму народу і Рэспубліцы Беларусь. У ходзе мерапрыемстваў будзе праводзіцца прыём новых сяброў у асацыяцыю вайскоўцаў запасу.

**Старшыня прэс-цэнтра БЗВ А. КУЛЕШ.**

## З БЯСПЛАТНАЙ БУЛЬБАЙ ВАС...

Адзін з асноўных прадуктаў нашага стала — бульба — каштуе цяпер нямала. І гэта ў першую чаргу адчулі на сабе маламаёмныя. Відаць, улічваючы гэта, у Маладзечна выканком гарадскога Савета народных дэпутатаў прыняў рашэнне аб дадатковых мерах па сацыяльнай абароне пенсіянераў і інвалідаў.

У горадзе бясплатна атрымаюць па сто кілаграмаў бульбы ўсе адзінокія састарэлыя і інваліды, чыя пенсія менш за мінімальную заработную плату. Матэрыяльная дапамога ў суме пяцьсот рублёў на пакупку «другога хлеба» будзе выплачвацца ўсім састарэлым і інвалідам, у якіх пенсія перавышае мінімальную зарплату не больш чым на сто рублёў.

Сродкі на гэту высакародную справу паступяць з дабрачыннага рахунку гарвыканкома і аддзела сацыяльнага забеспячэння.

**Вольга КАЖАМЯКІНА. (РІД).**

## З «РОЯЛАМ» РАШЫЛІ ПАЧАКАЦЬ

**БАРАНАВІЧЫ. Дзяржнагляд горада забараніў продаж галандскага спірту «Роял» і «Ровах», таму што на тэрыторыі рэспублікі з'явіліся выпадкі атручэння гэтай замежнай прадукцыяй. Вета будзе дзейнічаць, пакуль не праясніцца сітуацыя са спіртам. Жыхары горада і раёна папярэджаны аб небяспецы. Ім раяць устрымацца ад «гаручай» вадкасці.**

## У Прэзідыуме Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

Пад старшынствам Станіслава Шушкевіча адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Павышэнню эфектыўнасці заканатворчай дзейнасці народных дэпутатаў заклікаецца садзейнічаць Кансультатыўны савет беларускага парламента, палажэнне аб якім зацверджана Прэзідыумам Вярхоўнага Савета. Перад гэтым парламенцкім фарміраваннем пастаўлена задача калектыўнага абмеркавання законапраектаў у працэсе іх падрыхтоўкі да слухання на сесіях. «Малы» савет, а ў яго састаў увайшлі ўсе народныя дэпутаты, якія ажыццяўляюць свае паўнамоцтвы на прафесійнай аснове, зможа аператыўна і больш кваліфікавана дапрацоўваць праекты заканадаўчых актаў, што паскорыць тэрміны іх зацвярджэння парламентам.

На пасяджэнні Прэзідыума прыняты пастановы «Аб назначэнні суддзяў эканамічнага суда Садружнасці Незалежных Дзяржаў», «Аб ваенных судах і пытаннях рэарганізацыі ваеннай пракуратуры», «Аб звароце Прэзідыума Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь да грамадзян Рэспублікі Беларусь у сувязі з аб'яўленнем 1 кастрычніка Днём пажылых людзей» і іншыя.

З мэтай упарадкавання дзеючай сістэмы дзяржаўных узнагарод, распрацоўкі прынцыпова новых падыходаў да ўзнагароджання створана Камісія Вярхоўнага Савета па падрыхтоўцы праекта Закона Рэспублікі Беларусь аб дзяржаўных узнагародах. Узначаліць камісію даручана намесніку Старшыні Вярхоўнага Савета Васілю Шаладонаву. Разгледжаны і іншыя пытанні дзяржаўнага жыцця.

**Прэс-служба Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь —БЕЛІНФАРМ.**

— ЗОНА АСАБЛІВАЙ УВАГІ —

## Як народны дэпутат Волкаў на кангрэсе выступаў

А такі добра выступаў. Натхнёна. З сардэчным болем за тое, што мала што мяняецца на роднай старонцы, а гады ідуць. Яго прамова прагучала рэзкім дысанансам спакойнай плыні міжнароднага семінара-практыкума і прымусіла прысутных яшчэ раз спытаць уласнае сумленне: а які ж мой асабісты ўклад у барацьбу з чарнобыльскім джынам?

Дэпутат беларускага парламента, дырэктар незалежнага нарвежска-беларускага цэнтра Анатоль Волкаў катэгарычна сцвярджаў, што навука наша не забяспечыла абароны чалавека ад вынікаў аварыі. Таму што няма належнага фінансавання. Сусветная навука ў зону «не ідзе», падкрэсліў Волкаў, а замежныя дзяржавы не збіраюцца ўдзельнічаць у нашых надзвычайных праграмах, бо МАГАТЭ ўсіх запэўніла, што праблем у нас — няма! І гэта ў той час, калі радыеактыўная зараза распаўзаецца па ўсім свеце.

Рэзкія, непадсаложаныя словы вучонага з Пінска кожны ўспрыняў па-свойму: і доктар Б. Юрані з Чэха-Славакіі, і доктар П. Кукулакіс з Грэцыі, і маладыя польскі магістр К. Гедзіга, іх калегі з ФРГ, Украіны, Расіі. Хай прабачаць, але іншым часам ужо нестае сіл для таго, каб гаварыць намёкамі, з абавязковымі рэверансамі і змякчэннямі.

Тэма абмяркоўвалася звышактуальная—агратэхнічныя спосабы паляпшэння забруджаных радыенуклідамі глебаў. Наколькі жыццяздольныя прапануемыя для шырокага выкарыстання методыкі? З распрацаваных беларускімі вучонымі контрмер найбольш эфектыўнай аказалася хімічная меліярацыя глебаў — насычэнне іх кальцыем, магніем і каліем да аптымальных узроўняў. Гэта змяншае паступленне радыенуклідаў у сельскагаспадарчую прадукцыю ў 3—4 разы. Першаступенным прыёмам з'явілася вапнаванне. За пасляваарыйны перыяд правапнавана паўмільёна гектараў.

Устаноўлена адмоўная роля павышаных дозаў азотных угнаенняў — яны выклікаюць рэзкае накапленне радыенуклідаў у раслінах. Вывучаны вялікі спектр сарбентаў, што змяншаюць пераход цяжкіх металаў у палявыя культуры. Увесь комплекс акультурвання глебаў, уключаючы рэгуляванне воднага рэжыму, абагачэнне глебы гумусам, прымяненне мікраўгнаенняў і мінімалізацыю азотных угнаенняў, дазваляе знізіць забруджванне прадукцыі ў 6—10 разоў.

Значны эфект можа быць атрыманы і рацыянальным падборам культур і размяшчэннем іх з улікам уласцівасцей глебы, бо розніца ў накапленні нуклідаў велізарная (ад 10 да 60 разоў). І гэта можа разглядацца як галоўны элемент адаптыўнага земляробства ў зоне забруджання.

Так што, як бачым, прадстаўнікі нашай айчыннай навукі прыйшлі на міжнародную сустрэчу не з пустымі рукамі. Асабіста мне здалося, што менавіта яны і задавалі тон усёй размове, выглядалі больш дасведчанымі. (Зрэшты, было б дзіўна, калі б інакш было).

У той змове маўчання, якая з падачы міжнароднай энергетычнай мафіі ўсё яшчэ пануе ў свеце вакол маштабаў і вынікаў чарнобыльскай аварыі, значэнне міжнароднай сустрэчы вучоных цяжка пераацаніць. Тым больш што ў кожнай навуковай школы — і беларускай, і ўкраінскай, і нямецкай — ёсць свае здабыткі. Дзяліліся імі ўвогуле ахвотна. Праўда, нехта ў мяне за плячыма пракаменціраваў выступленне калегі з ФРГ: «Утойвае Эрых, не ўсё гаворыць...» Можа, чалавеку здалося?

**Уладзімір ХІЛЬКЕВІЧ, аглядальнік «Звязды».**

## Падумаем пра светлую дату ў нашай гісторыі, падумаем пра ўвесь беларускі народ

**Рэпартаж з урачыстасцей, прысвечаных 1000-годдзю Полацкай епархіі і Праваслаўнай царквы на Беларусі**

**І.**

Шматлікія госці, запрошаныя на ўрачыстасці, пачалі прыбываць у Мінск з самага ранку 24 верасня. Да гасцініцы «Планета», дзе размясціўся аргкамітэт свята, пад'язджалі і пад'язджалі таксі з паважнымі святарамі — пастарамі і архіпастарамі Праваслаўнай царквы з усяго свету. Вельмі кароткі час на адпачынак, і трэба адпраўляцца на экскурсію.

Разам з гасцямі мы маем магчымасць паглядзець тыя нешматлікія праваслаўныя храмы, якія ацалелі і дзейнічаюць у посткамуністычны перыяд. «Бога няма, а рэлігія — опіум для народа», — вучылі нас усіх у школах. Так вось і вырасла некалькі пакаленняў без Бога ў душы, без усялякіх маральных і духоўных арыенціраў, з надзеяй, што «мы наш, мы новый мир построим». Але не пабудавалі. Стомленыя і зняверапыя людзі шукаюць падтрымкі ў Царквы.

...Разам з экскурсаводам спыняемся ля Свята-Духава кафедральнага сабора. Сёння ён абжыты прыхаджанамі, а некалькі дзесяткаў гадоў назад, памятаецца, быў у страшэнным запусценні, і наведвалі яго адны бабулькі. Маладзейшыя проста не рызыкавалі — пільныя ўлады адразу паведамлялі пра такі ўчынак на работу і чалавека чакалі вялікія непрыемнасці.

Свята-Духаў сабор — прыгажун. Побач з ім, у будынку былога Бернардзінскага храма, закрытага яшчэ ў сярэдзіне 19-га стагоддзя, размяшчаецца архіў. На адной з пустак вакол сабора да лета 1936 года стаяў і велічны Свята-Петрапаўлаўскі сабор. Яго ўзарвалі ваяўнічыя атэісты ў перыяд пабудовы сацыялізму. Мяркуецца аднаўленне гэтага храма, пачаліся работы па аднаўленню былога Базыльянскага манастыра. Захаваўся езуіцкі храм, у якім цяпер размешчана свецкая ўстанова. Дарэчы, да 1917 года ў Мінску было 17 дзеючых храмаў разам з дамовымі цэрквамі. У наш час іх чатыры. Так што ездзіць гасцям доўга не даводзіцца.

Святар праваслаўнай царквы з Фінляндыі Арто Лескінен без перакладчыка кепска разумее экскурсавода. Але з дапамогай рухаў, англійскіх і рускіх слоў мы нават завялі гутарку, з якой даведаліся, што малады святар ужо другі раз у Беларусі, а ў яго прыходзе амаль 2,5 тысячы чалавек.

Іераманах Барыс, каларытны балгарын, патрыяршы прадстаўнік падвор'я ў Маскве, добра размаўляе парýску. Да нашага жыцця ён ужо цудоўна прыстасаваўся і някепска арыентуецца ў ім. Аднак Беларусь, як мне здалося, для яго — малавядомы мацярык. «Як ставяцца беларусы да крэмацыі?» — пацікавіўся ён у сваіх калег на Вайсковых могілках. Святары глыбакадумна паківалі галовамі, не ведаючы, як адказаць на такое няпростае пытанне.

Другой падзеяй дня стала наведванне гасцямі Нацыянальнай мастацкай галерэі

(Заканчэнне на 3-й стар.).

НА ЗДЫМКУ: малебен перад Цудатворным абразом Божае Маці.
Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

## Якім быць Інстытуту дзяржаўнага будаўніцтва

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч падпісаў дакумент аб назначэнні дырэктарам Інстытута дзяржаўнага будаўніцтва і заканадаўства Валянціна БАРАЎЦОВА. З ім гутараць карэспандэнты агенцтва «Інтэрфакс» Вячаслаў ЗЯНЬКОВІЧ і газеты «Звязда» Людміла ЛАЗОВІК.**

**— Валянцін Арцёмавіч! У сваіх інтэрв'ю і выступленнях на прэс-канферэнцыях кіраўнік нашага парламента неаднойчы выказваўся за стварэнне аналітычнага цэнтра па выпрацоўцы дзяржаўных дактрын, некаторых законаў і заканадаўчых актаў. Арганізацыя ўзначальваемага вамі інстытута і ёсць увасабленне ў жыццё ідэі Станіслава Шушкевіча?**

— Часткова гэта сапраўды так. Ідэя стварэння Інстытута дзяржаўнага будаўніцтва і заканадаўства ўзнікла ў структурах урада яшчэ ў 1989 годзе, калі стала вядома: многія палажэнні дзеючага заканадаўства перасталі адпавядаць патрабаванням часу. Перабудова ў СССР несла з сабой столькі перамен, што заканадаўцы пры ўсім сваім жаданні проста фізічна не змаглі б уносіць неабходную колькасць змяненняў у законы. Са скасаваннем Савецкага Саюза і ўтварэннем незалежнай беларускай дзяржавы гэта праблема яшчэ больш абвастрылася. Старое савецкае заканадаўства, што стваралася ва ўмовах таталітарызму, зусім непрымальнае для Беларусі, якая імкнецца да дасягнення дзяржаўнага нейтралітэту і дэмакратычнай незалежнасці. Узяць хоць бы Крымінальны кодэкс. Паводле яго палажэнняў, прыватнае прадпрымальніцтва праследуецца законам. Маральна ўстарэла і існуючая сістэма размеркавання жылля, і многія іншыя пытанні, якія ніяк не стасуюцца з абвешчаным намі курсам на пераход да рынкавай эканомікі.

Інстытут дзяржаўнага будаўніцтва і заканадаўства заклікаўы займацца распрацоўкай стратэгічных напрамкаў сацыяльнага і палітычнага развіцця рэспублікі. Ён сапраўды павінен стаць магутным аналітычным цэнтрам па выпрацоўцы нацыянальных дактрын, як гэтага хацеў бы Старшыня Вярхоўнага Савета.

**— Якая будзе яго структура?**

— Як мяркуецца, у інстытуце будуць дзейнічаць сем аддзелаў: стратэгічных ініцыятыў, параўнаўчага правазнаўства, прыватнага права, заканадаўства аб грамадскім ладзе, сацыяльнага развіцця, аб правасуддзі і ахове парадку, аб экалогіі.

Фармальна дзейнасць інстытута знаходзіцца ў падпарадкаванні Прэзідыума Вярхоўнага Савета, аднак фактычна ён будзе падпарадкоўвацца непасрэдна яго Старшыні.

Што датычыцца колькасці супрацоўнікаў інстытута, то арыенціровачна яна складзе каля 60 чалавек. Для параўнання: у штаце такой жа структуры Расіі — 150 вучоных і спецыялістаў плюс 30 чалавек абслугоўвага персаналу.

**— Якімі прынцыпамі вы будзеце кіравацца пры падборы кадраў?**

— Перш за ўсё — здольнасцямі кандыдатаў у супрацоўнікі інстытута. Тут не будзе мець рашаючага значэння наяўнасць вучонай ступені. Няхай гэта будзе не доктар, і нават не кандыдат навук, але чалавек, які

(Заканчэнне на 3-й стар.).



«ЗВЯЗДА»-93

# ЧАС ВЫБРАЎ НАС

Сёння несумненна і бясспрэчна адно: з пачатку XX стагоддзя наша рэчаіснасць, лёс Бацькаўшчыны яшчэ не былі такімі няпэўнымі і не аднaзначнымі, як цяпер. А як жа Вялікі Кастрычнік, Вялікая Айчынная, — скажа іншы чытач? Так, былі: і Кастрычнік, і Айчынная вайна... Больш таго: былі і калектывізацыя, ГУЛАГ, індустрыялізацыя, цаліна... Шмат чаго было ў нашай багатай, сумнай, трагічнай гісторыі. Але, як правіла, гэта былі часцей за ўсё катаклізмы: неразумнае размеркаванне чалавечых магчымасцей і сіл, авантурны выбух чыйсьці энергіі, ініцыятывы. Сляпое ж, бяздумнае падпарадкаванне гэтай энергіі, трызненню надуманых, штучна створаных класікаў, і прывяло нас, урэшце, туды, дзе мы сёння і апынуліся.

Дык хто ж мы?
Што мы рабілі і робім?
Куды мы наогул ідзём?

Тры пытанні — узаемазвязаныя, вострыя і неадназначныя — самыя, несумненна, важныя і надзённыя сёння для ўсіх нас і кожнага — нібы тое гамлетаўскае «Быць ці не быць?».

...Палітычная, камуністычная і нацыянальная дэзарганізацыя беларускага народа зрабіла з яго пакорлівую і бяздзейсную масу. Гэта стала нашай страшэннай нацыянальнай трагедыяй. Зняважаны, застрашаны, запраграміраваны беларус на працягу дзесяцігоддзяў слепа верыў у «светлую будучыню», практычна поўнасцю згубіўшы пры гэтым арыентацыю на агульначалавечыя каштоўнасці, па якіх, за выключэннем «савецкага народа», жыў і жыве, працвітаў і працвітае ўвесь цывілізаваны свет.

**Абудзіць свядомасць, патрыятызм народа, адрадзіць нашу слаўную мінуўшчыну, данесці да беларусаў і ўсяго чалавецтва праўду нашага сённяшняга дня — што можа быць зараз больш неабходна і каштоўна...**

Зрабіць гэта будзе няпроста. Спадчына дэзарыентацыі, нацыянальнага прыгнёту, апатыі, што дасталіся нам, глыбока засела ў душах людзей. Прагрэсу Адраджэння, суверэнітэту і незалежнасці моцна шкодзяць і зараз як ранейшы спосаб мыслення, так і старыя ўладныя і дзяржаўныя структуры. І, такім чынам, вывесці народ з летаргіі «светлай будучыні» будзе вельмі і вельмі няпроста.

Таталітарны Саюз ССР развалíўся. **І наша задача — як мага больш паспрыяць адраджэнню самабытнасці беларускага народа, уваскрашэнню свабоды духу.**

Хто мы?
Беларусы!
Што мы робім?
Людзьмі хочам звацца!
Куды мы ідзём?
Да цывілізаванага жыцця!

**Адной з асноўных задач «Звязды» ў наступным годзе нам бачыцца знаходжанне свайго месца ў гістарычнай адбудове новай Рэспублікі Беларусь.** Што мы закладзём, прапануем нашым нашчадкам, — тое яны і памножаць, прымножаць, панясуць далей — праз стагоддзі.

Векавое праследаванне беларускай нацыі, паланізацыя, каталізацыя, а таксама — русіфікацыя, дэнацыяналізацыя і ліквідацыя Царквы наогул — вось што атрымалі мы ў спадчыну. Пераадолець гэта трэба — і трэба як мага хутчэй, з як мага меншымі стратамі. А для гэтага сёння асабліва патрэбны цярплівасць і павага адзін да аднаго, высокая годнасць і свядомасць, духоўнасць і мараль...

А яшчэ — вера ў будучыню: не сляпая, посткамуністычная, а самая звычайная вера: мірская, спагадлівая.

Сёння наша грамадства хворае: і фізічна, і фізіялагічна, а найперш і найбольш — духоўна і маральна. Трагедыя беларускага народа прайшла ўжо шмат этапаў. **Паказаць іх на старонках газеты — аб'ектыўна, праўдзіва, шчыра, адкрыта — наш прафесійны, а ў першую чаргу — чалавечы абавязак.**

Хто мы былі, ёсць і будзем?
Хто мы сёння ў чалавечым асяродку—у СНД, Еўропе, свеце?

Ці разумеюць нас? Ці хочуць зразумець?

Пытанні, пытанні, пытанні... І яны чакаюць адказаў: канкрэтных, праўдзівых, рэальных.

Мы ж пастараемся пасадзейнічаць пошуку адказаў на іх.

Побач з намі, беларусамі, жывуць сёння ў суверэннай і незалежнай рэспубліцы рускія і палякі, украінцы і літоўцы, яўрэі і татары... **Наша мэта — прадоўжыць усталяванне грамадзянскага міру паміж імі, свята захоўваць паразуменне, зберагчы нацыянальныя інтарэсы кожнага народа, кожнай нацыі.** Не павінна быць у нас праблем: ні моўных, ні культурных, ні дэмаграфічных, ні якіх-небудзь іншых.

...Шмат слоў-заклікаў ужыта вышэй: спрыяць, дапамагчы, прадоўжыць, садзейнічаць і г. д., і да т. п. Гэта, аднак,— не даніна модзе, што была зусім нядаўна, не працяг традыцый, як казалі некалі. Гэта — **патрэба жыцця.** Жыцця складанага, неадназначнага, супярэчлівага, выбухованебяспечнага... Разам з тым, **мы будзем бязлітаснымі да тых, хто паімкнецца тармазіць народнае адраджэнне, спрыяць антыбеларускім плыням і матывам.**

Час выбраў усіх нас. Выбраў для шчырай працы, неўтаймоўнага змагання за Адраджэнне. І мы гатовы да гэтага. А тым, хто творыць, робіць дабро, дапамагаюць усе. У тым ліку і Бог. Памятаеце: «Прасіце, і дасца вам; шукайце, і знойдзеце; стукайцеся, і адчыняць вам...»

**Анатоль МЯСНІКОЎ, рэдактар аддзела міжнацыянальных адносін і міжнароднага жыцця «Звязды».**

# РОЗГАЛАС

## СПРАВЫ ІДУЦЬ НЕ ЛЕПШЫМ ЧЫНАМ

МІНСК. Паводле Мінсксельгаспрода, на 21 верасня гаспадаркі вобласці нарыхтавалі ўсяго 11.342 тоны бульбы (гэта 14 працэнтаў да плана) і 10.423 тоны агародніны (17,9 працэнта). Яшчэ каля 6 тысяч тон пастаўлена ў Мінск з-за межаў рэспублікі. У цэлым жа з-за засухі ўраджайнасць бульбы значна ніжэйшая. Калі ў мінулыя гады бралі па 300 цэнтнераў з гектара, то ў гэтым — 85—90 цэнтнераў, з якіх палавіну гаспадаркі пакідаюць на насенне будучага года. Зараз у Мінсксельгаспродзе шукаюць, дзе яшчэ можна ўзяць бульбу. Прычым дзіўна, што ўлады Мінска чамусьці знізілі абавязковыя яе пастаўкі ў сталіцу з 90 да 60 тысяч тон. Тры тысячы з іх пастаўлены ўжо з іншых абласцей рэспублікі, прапрацоўваецца пытанне аб завозе бульбы з Польшчы. У цэлым жа па рэспубліцы работы на бульбяных палях ідуць поўным ходам. Паводле даных Мінсельгаспрода РБ, на 22 верасня было ўбрана 122,7 тысячы гектараў — крыху больш палавіны ўсіх плошчаў. Накапана амаль 1 мільён 200 тысяч тон клубняў пры сярэдняй ураджайнасці 97 цэнтнераў.

## З НОВЫМ ГОДАМ, ХАВЭРЫМ!

27 верасня яўрэі свету адзначаюць прыход Новага 5753 года паводле летазлічэння ад стварэння свету. Яўрэі Мінска ў гэты дзень збяруцца на малітву і лекцыю галоўнага равіна Беларусі ў актавай зале інстытута «Белпраект» па праспекту Машэрава, 23.

Сардэчна віншуем нашых суайчыннікаў іудзейскага веравызнання, жадаем ім шчасця і радасці ў Новым годзе.

Хавэрым (іўрыт)—сябры.

## ВЯЛІКАЯ КААРДЫНАЦЫЯ

Нядаўна ў Маскве адбылася нарада лідэраў камуністычных і рабочых партый, якія занялі месца забароненай у Расіі КПСС. Удзел у сустрэчы прымаў і адзін з кіраўнікоў Партыі камуністаў Беларусі Віктар Чыкін. На нарадзе дзеля каардынацыі дзеянняў быў сфарміраваны Палітычны кансультатыўны камітэт кіраўнікоў рабочых і камуністычных партый.

Першая нарада кансультатыўнага камітэта адкрылася ўчора ў Мінску.

## Беларусь — Балгарыя: так шмат паралеляў

На іх само сабой акцэнтавалася гаворка, якую правялі з журналістамі 24 верасня Стаян Фердаў, пасол Балгарыі ў Беларусі, святар і грамадскі дзеяч Грозю Грозеў, балгарскі беларусіст Венета Казарава і іншыя. Журналісты даведаліся:

— што ў Балгарыі таксама ідзе актыўнае абмеркаванне новых дзяржаўных сімвалаў. Разгляду адпаведнай парламенцкай камісіі было прадстаўлена аж 45 варыянтаў герба (з якіх ніводзін не прынялі), а пошукі сапраўднага нацыянальнага сцяга сягнулі ажно ў 7-е стагоддзе, эпоху хана Аспаруха, калі сцягам балгар служыў... конскі хвост;

— што ўжо створана пятнаццаць сумесных балгара-беларускіх прадпрыемстваў і на працягу Дзён Балгарыі ў Беларусі, мяркуецца, будзе зарэгістравана шаснаццатае.

Мерапрыемствы Дзён, акрамя сталіцы, пройдуць таксама ў Заслаўі, Магілёве, Полацку.

## ВЫПРАБАВАННЕ НА ПРЫГОДНАСЦЬ

ТАЛАЧЫН. (Т. Махтадуй). У аддзеле ўнутраных спраў райвыканкома вельмі строгі падыход да падбору кадраў. Сёлета, напрыклад, звольнена 5 работнікаў міліцыі. Да нядобрасумленнага выканання імі службовых абавязкаў аднесена тое, што яны некалькі разоў спазняліся на работу, не сачылі за сваёй выпраўкай, ігнаравалі нашэнне формы. Так што ўсё гэта трэба ўлічыць тым, хто вырашыў стаць міліцыянерам. А нядаўна ўведзены выпрабавальны тэрмін на год для кожнага вартавога правапарадку. За гэты час да навічка ўважліва прыглядзяцца, праверацць яго дзелавыя якасці і зробяць вывад — можа ён стаць міліцыянерам ці не.

## Нацыянальны банк — прадпрыемствам: «Вы гэтыя хітрыкі кіньце»

Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь часова абмежаваў выдачу крэдытаў камерцыйным банкам. Гэта выклікана, мякка кажучы, некарэктнымі паводзінамі вытворцаў — кліентаў банкаў, якія любымі шляхамі спрабуюць набраць як мага больш доўгатэрміновых крэдытаў. У выніку сума апошніх дасягнула 230 мільярдаў рублёў, хоць на рахунках прадпрыемстваў ёсць свабодныя сродкі. Цяпер доўгатэрміновыя крэдыты будуць выдавацца толькі пасля фінансавай экспертызы прадпрыемстваў і толькі пад праграмы, якія маюць вялікае значэнне для эканомікі рэспублікі.

## НЕ АБЫШЛІ ЎВАГАЙ

Чорным аказаўся гэты панядзелак для консула Рэспублікі Польшча ў Беларусі. Уначы ў цёмным двары на Нямізе была «абчышчана» яго службовая аўтамашына.

Мінскія зладзеі ўжо не першы раз выбіраюць аб'ектамі сваёй увагі грамадзян суседніх дзяржаў. Літаральна на мінулым тыдні падверглася «аблягчэнню» кватэра другога сакратара нямецкага пасольства. Узламаўшы дзверы, зладзеі знеслі відэакамеру, магнітафон і асабістыя рэчы.

**РІД.**

## ГРОШЫ ПАХНУЦЬ ГАЗАЙ

**Аршанскім РАУС і аддзелам па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю ўпраўлення КДБ па Віцебскай вобласці раскрыта і спынена проціпраўная дзейнасць групы ваеннаслужачых з дыслацыраванай у Аршанскім раёне часці Аб'яднаных войск СНД. Капітан А., лейтэнант К., прапаршчык М. і іншыя вырашылі, відаць, за дзяржаўны кошт паправіць свае фінансавыя праблемы, рэалізуючы са сховішчаў часці буйныя партыі газы (некалькі соцень тон). Следчым падраздзяленнем УКДБ узбуджана крымінальная справа па прыкметах злачынства, прадугледжаных артыкулам 91 КК РБ. І хоць следства працягваецца, ужо сёння можна сказаць: адабраныя ў раскрадальнікаў сотні тысяч рублёў сапраўды пахнуць газай.**

**Падраздзяленне грамадскіх сувязей КДБ Беларусі.**

**Выпуск «Розгаласа» рыхтавалі: Ігар Карней, Аляксандр Коктыш, Станіслаў Сулкоўскі, Ігар Шчучэнка**

## У САВЕЦЕ КАНТРОЛЬНАЙ ПАЛАТЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Савет Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь на чарговым пасяджэнні разгледзеў вынікі праверкі правільнасці фарміравання і эфектыўнасці выкарыстання сродкаў Пенсіённага фонду Рэспублікі Беларусь.

Было адзначана, што фонд не ў поўнай меры забяспечыў збор і накапленне даходаў для фінансавання сацыяльных выплат. У першым паўгоддзі гэтага года ў яго бюджэт паступіла 21 млрд. рублёў, што складае толькі 80,8 працэнта ад планавага задання.

Бюджэт фонду на 1992 год быў зацверджаны толькі ў канцы мая. Фактычна ўвесь гэты час работнікі ўсіх падраздзяленняў фонду працавалі без неабходных арыенціраў, не былі мабілізаваны на выкананне планаў даходаў. Пратэрмінаваная запазычанасць фонду плацельшчыкаў узносаў на 1 ліпеня 1992 года склала 802,8 млн. рублёў.

Савет Кантрольнай палаты звярнуў увагу праўлення Пенсіённага фонду Рэспублікі Беларусь на недахопы ў кіраванні фінансамі фонду, на неабходнасць ашчаднага і больш эфектыўнага выкарыстання сродкаў. Прапанавана таксама ажыццявіць шэраг захадаў па ўпарадкаванню камерцыйнай дзейнасці фонду.

У сувязі са зваротам у Кантрольную палату Рэспублікі Беларусь рабочага Ляхавіцкай дарожна-будаўнічай перасоўнай механізаванай калоны № 29 «Брэстаблсельбуда» К. Пугача разгледжаны вынікі праверкі гэтай арганізацыі. Яна выявіла шматлікія злоўжыванні ў гаспадарчай дзейнасці начальніка і галоўнага бухгалтара калоны А. Бакуновіча і А. Яфімчык. Савет патрабаваў ад кіраўніцтва «Брэстаблсельбуда» вызваліць А. Бакуновіча і А. Яфімчык ад займаемых пасад. За нанесеныя страты на іх зроблены грашовыя налікі. Матэрыялы праверкі перададзены ў пракуратуру.

На пасяджэнні Савета былі разгледжаны прапановы Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь па ўнясенні змяненняў і дапаўненняў у шэраг законапраектаў. Яны будуць унесены на разгляд Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Інфармацыйна-аналітычны аддзел Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь — БЕЛІНФАРМ.**

## ІНФАРМАЦЫЯ ДЛЯ РОЗДУМУ:

### АФІЦЭРЫ-БЕЛАРУСЫ

Колькасць афіцэраў-беларусаў у Беларускай арміі няўхільна расце. Калі ў сёлетнім маі яны складалі 19 працэнтаў ад агульнай колькасці, сёння — 29, дык да канца бягучага года чакаецца павелічэнне іх долі да 33—34 працэнтаў. Гэта найперш звязана з міграцыйнымі працэсамі сярод афіцэрства краін СНД і стварэннем уласнай беларускай арміі.

## ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ●

### «ГОЛАС АМЕРЫКІ»

*** Пагаджальная камісія кангрэса ЗША адобрыла законапраект, які прадугледжвае прадастаўленне 460 мільёнаў долараў на праграму дапамогі былым рэспублікам СССР, якія ажыццяўляюць пераход да дэмакратыі і свабоднага рынку. Прадугледжаны і ўклад 3 мільярдаў долараў у стабілізацыйны фонд валют рэспублік былога Саюза ССР. Аднак дапамога Азербайджану не будзе аказвацца ў выпадку працягу блакады Нагорнага Карабаха.**

* Чарговы раунд перагавораў па блізкаўсходніх праблемах паміж Ізраілем і арабскімі краінамі закончыўся ў Вашынгтоне без значнага прагрэсу. Перагаворы зайшлі ў тупік адносна часу і тэмпаў вываду ізраільскіх войск з Галанскіх вышынь. Чарговая сустрэча ўдзельнікаў перагавораў назначана на 21 кастрычніка — зноў у Вашынгтоне.

*** Злучаныя Штаты выдзелілі звыш 6 мільёнаў долараў для садзейнічання эвакуацыі тысяч зняволеных, што ўтрымліваюцца ў канцэнтрацыйных лагерах былой Югаславіі. Зняволеныя ёсць у лагерах усіх варажуючых бакоў.**




### РАДЫЁ «СВАБОДА»

* Міжнародныя пасрэднікі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па Югаславіі Сайрус Вэнс і лорд Оўэн прыбылі ўчора ў паўночны рэгіён Босніі і Герцагавіны. Іх місія пакуль што станоўчых вынікаў практычна не дае.

*** Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця выдзеліў на праграму дапамогі прыватызацыі прамысловасці Украіны звыш 2 з палавінай мільёнаў долараў. У ажыццяўленні праграмы будуць прымаць удзел германскія, брытанскія і амерыканскія фірмы.**

* Расійскі завод, які выпускае гарэлку «Сталічная», выступіў у абарону чысціні сваёй прадукцыі пасля таго, як у Чэха-Славакіі была захоплена партыя недабраякаснай гарэлкі з такой жа этыкеткай. Кіраўніцтва завода заявіла, што сёлета «Сталічная» ў Чэха-Славакію наогул не завозілася. Чэхаславацкія афіцыйныя асобы пагадзіліся, што гарэлка магла быць выраблена нелегальнымі вытворцамі.

*** Прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі Джон Мейджар стаў яшчэ адным еўрапейскім лідэрам, якія заклікаюць да абмежавання паўнамоцтваў цэнтральных органаў Еўрапейскай супольнасці. Мейджар указаў на небяспеку занадта вялікай цэнтралізацыі і недэмакратычнасці супольнасці. Аналагічныя заявы зрабілі раней канцлер ФРГ і прэм'ер-міністр Даніі.**

* Камандуючы ваенным кантынгентам ААН у Югаславіі генерал Марыён заявіў, што штаб войск ААН у Сараеве павінен быць перавезены ў больш бяспечнае месца.

*** Прадстаўнік польскіх улад сказаў журналістам, што, нягледзячы на заканчэнне «халоднай вайны», Польшча не ліквідуе сваю ваенную прамысловасць. Яна мае намер сканцэнтраваць увагу на экспарце ўзбраення.**

* 25 тысяч дэманстрантаў прайшлі па цэнтральных вуліцах і плошчах Будапешта, выказваючы пратэст супраць правага нацыяналістычнага руху ў Венгрыі. Дэманстранты прайшлі да памяшкання парламента з песнямі і лозунгамі ў падтрымку свабоды і дэмакратыі.

● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ

# Падумаем пра светлую дату ў нашай гісторыі, падумаем пра ўвесь беларускі народ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар).

Беларусі. Хоць мерапрыемства планавалася загадзя, тым не менш для высокіх гасцей, якія прыйшлі азнаёміцца з беларускім мастацтвам і з творамі Я. Ждана, які шмат піша на біблейскую тэматыку, не знайшлося кваліфікаванага мастацтвазнаўцы для агляду экспазіцыі. Таму даводзілася святарам самім паблукаць па залах, распытваючы пра тое, што іх цікавіла, у наведвальнікаў.

Увечары ў Свята-Духавым кафедральным саборы адбыўся малебен перад цудатворным абразом Божае Маці, названым Мінскі. Было шмат вернікаў, якія прыйшлі ў гэты святы дзень атрымаць благаславенне ўладыкі Філарэта і шаноўных патрыярхаў, разам з імі нагадаць імёны сваіх слаўных продкаў, чые высакародныя справы садзейнічалі ўсталяванню на гэтай зямлі хрысціянства, якое паставіла на месца прынцыпу жорсткага эгаізму і права моцнага прынцыпы справядлівасці, міласэрнасці, спачування і любові.

Першы дзень для ўдзельнікаў свята закончыўся праглядам кінафільма пра Беларусь. А на наступны адбылася навуковая канферэнцыя, прысвечаная 1000-годдзю Полацкай епархіі і Праваслаўнай царквы на Беларусі.

**Матэрыялы, прысвечаныя гэтай падзеі, а таксама далейшаму святкаванню, чытайце ў наступных нумарах.**

**Таццяна АНТОНАВА.**



**НА ЗДЫМКАХ: юбілейныя святкаванні пачаліся ў Свята-Духавым кафедральным саборы; на свяце Беларускай царквы пазнаёміліся айцец Барыс з Балгарыі і айцец Арто Лескінен з Фінляндыі; госці свята ў час наведвання Нацыянальнай мастацкай галерэі.**

**Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.**

# Якім быць Інстытуту дзяржаўнага будаўніцтва

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

мае сваё, нестандартнае бачанне праблем, які жадае працаваць з задавальненнем, а не адбываць нейкую павіннасць.

Інстытуту патрэбны людзі, якія валодаюць замежнымі мовамі. Прычым не проста перакладчыкі, а прафесіяналы-юрысты. Ведаючы, што такіх у Беларусі вельмі мала, плануецца адкрыць для супрацоўнікаў інстытута спецыяльныя курсы па вывучэнню розных моў, прычым за кошт сродкаў інстытута.

Хачу адзначыць, што будзем старацца прымаць на работу людзей не старых, а пераважна маладых, дзейных, якія валодаюць высокай працаздольнасцю.

**— Вы ўпэўнены, што хутка здолееце набраць 60 супрацоўнікаў, якія поўнасцю адпавядалі б пералічаным патрабаванням?**

— А я і не імкнуся рабіць гэта хутка. Перакананы, што з падборам кадраў спяшацца нельга. Думаю, будзе нядрэнна, калі ўкамплектую штат супрацоўнікаў на працягу двух гадоў.

У сваім пытанні вы закранулі вельмі важную праблему, якая стаіць сёння не толькі перад Інстытутам дзяржаўнага будаўніцтва і заканадаўства. Вымушаны з жалем канстатаваць няхватку інтэлектуальнага патэнцыялу ў Беларусі. Яна ўзнікла ў выніку сістэмы адбору кадраў, народжанай цэнтралізаванай структурай улады СССР, калі лепшыя спецыялісты з рэспублік запрашаліся на работу ў Маскву, і працаваць ва ўстановах саюзнага значэння лічылася прэстыжным. Такім чынам у сталіцы былога СССР дзесяткамі гадоў канцэнтравалася інтэлектуальная эліта, у ліку якой, дарэчы, і цяпер знаходзіцца нямала нашых земляк оў. Я не маю нічога супраць прыцягнення да работы ў інстытуце вучоных з Масквы, неабавязкова нават выхадцаў з Беларусі, якія маглі б дапамагчы сваімі ідэямі станаўленню беларускай дзяржаўнасці.

Асаблівасць работы ў Інстытуце дзяржаўнага будаўніцтва заключаецца ў тым, што тут не трэба будзе выконваць чый-небудзь сацыяльны заказ, чыю-небудзь дакладную ўстаноўку. Мы самі павінны будзем выдаваць ідэі і канкрэтныя праграмы іх увасаблення ў жыццё. А гэта не ўсякі зможа. Ва ўсякім выпадку, не для ўсякага гэта прывычна. Шчыра кажучы, кадравую праблему лічу адной з самых галоўных для інстытута.

**— А якія ёсць яшчэ?**

— На жаль, у інстытута няма свайго памяшкання. Галоўнае гаспадарчае ўпраўленне Савета Міністраў спрабуе знайсці што-небудзь прыдатнае, але, бачна па ўсім, яму пакуль гэта не ўдаецца. Апрача таго, «завісла» пытанне з матэрыяльна-тэхнічным забеспячэннем. Якая служба і як стане гэтым займацца — на сённяшні дзень невядома.

## ЦЭНЫ НА РЫНКАХ

**(у рублях) 24 верасня**

| | Вільнюс | Масква | С.-Пецярбург | Мінск |
|---|---|---|---|---|
| Ялавічына | — | 300—500 | 250—500 | 180 |
| Свініна | 220—230 | 300—450 | 200—600 | 180—220 |
| Куры | 350 | 400—600 | 250—400 | — |
| Масла | 210—220 | — | 400 | 220 |
| Алей | — | 160 | 200 | 150 |
| Малако | 16 | 70 | — | — |
| Тварог | 50 | 150 | 80 | 60—70 |
| Смятана | 150 | 300 | 250 | 140—150 |
| Яйкі | 100—120 | 80 | 100 | 50 |
| Бульба | 25 | 25 | 25—40 | 18—25 |
| Памідоры | 35 | 50—70 | 50—60 | 25—40 |

## АДНЫМ РУХАМ СТАЛА БОЛЬШ

15 верасня пад нумарам 414 Міністэрства юстыцыі зарэгістравала статут Руху за тэрытарыяльнае самакіраванне (РТС).

Асноўнай мэтай Руху з'яўляецца садзейнічанне стварэнню на Беларусі сістэмы тэрытарыяльнага самакіравання. Менавіта сістэмы, прычым у статуце сфармуляваны два галоўныя прынцыпы яе будовы: па-першае, фарміраванне бюджэту і вызначэнне паўнамоцтваў мясцовых органаў улады знізу і, па-другое, аўтаномнасць у вырашэнні тэрытарыяльных задач.

Для дасягнення гэтай мэты неабходна прыняцце адпаведнага закона, а каб парламентарыі прагаласавалі за такі закон, павінна існаваць адпаведная грамадская думка.

Рух не ставіць сваёй мэтай прыход да ўлады. Ён на выбарах падтрымлівае прадстаўнікоў розных палітычных плыняў, якія на справе падзяляюць мэты і праграмныя прынцыпы Руху.

**М. БУСНЮК, старшыня Цэнтральнай рады Руху за тэрытарыяльнае самакіраванне.**

# СМЕХАТЭРАПІЯ

## Пакуль мы смяёмся з сябе, мы — жывыя і здаровыя!

**І ВОСЬ НОВАЯ, ПАКУЛЬ САКРЭТНАЯ ПАСТАНОВА, ЯКАЯ ЎСТУПІЦЬ У ДЗЕЯННЕ З 1 СТУДЗЕНЯ 1993 ГОДА. ЧЫТАЧЫ «ЗВЯЗДЫ» ЗНАЁМЯЦЦА З ЁЮ ПЕРШЫМІ.**

**ПАСТАНОВА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА І САВЕТА МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

## «Аб бульбе»

1. Бульба з'яўляецца галоўным і адзіным харчовым прадуктам на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Усе астатнія харчовыя тавары і прадукты абвяшчаюцца несапраўднымі і падлягаюць знішчэнню на працягу трох дзён з дня апублікавання гэтай пастановы.

2. З дня апублікавання гэтай пастановы слова «Бульба» пісаць ва ўсіх відах тэксту толькі з вялікай літары, незалежна ад месца ў сказе, зместу і характару выказвання.

3. Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па нацыянальнай сімволіцы прапрацаваць пытанне аб унясенні малюнка Бульбы на нацыянальны сцяг рэспублікі, а таксама аб унясенні слова «Бульба» ў тэкст Дзяржаўнага гімна Беларусі (не меней двух разоў у кожным куплеце і прыпеве).

4. Нацыянальнаму банку Рэспублікі Беларусь пачаць паступовую замену расійскіх рублёў і беларускіх разліковых білетаў на новы від грошай — бульбу. Мэтазгодным лічыць тэрміновую ўстаноўку курса бульбы ў адносінах да іншаземных валют і айчынных каштоўных папер. Усе разлікі на тэрыторыі рэспублікі весці толькі бульбай, зарплату на прадпрыемствах, у арганізацыях і ўстановах выдаваць ёй жа.

5. Міністэрству абароны РБ ва ўмовах узмацнення абараназдольнасці Беларусі тэрмінова распрацаваць і прыступіць да вырабу ўзбраенняў на аснове бульбы: бульбамёт, бульбяны пісталет, бульбяная ракета «поле—паветра», бульбяная міна і г. д. Прадугледзець размяшчэнне клубняў бульбы замест зорачак на пагонах афіцэрскага саставу.

6. Нацыянальнаму Алімпійскаму камітэту РБ тэрмінова пачаць падрыхтоўку зборных каманд Беларусі па новых відах спорту: хакей з бульбай, кіданне клубняў і скачкі цераз бульбоўнік, а таксама замяніць цяжкую атлетыку на падняцце вядзёр з бульбай. Замест медалёў узнагароджваць пераможцаў спартыўных спаборніцтваў рознымі па якасцях сартамі бульбы.

7. Міністэрству аховы здароўя РБ весці лячэнне хворых толькі прэпаратамі з бульбы, нягледзячы на дыягназ і стан хворых. Усе аптэчныя рэцэпты прапісваць толькі на аснове клубняў бульбы. Выкарыстоўваць бульбу ў якасці процізачаткавага сродку.

8. Усе пункты грамадскага харчавання перавесці выключна на бульбу, прычым у меню рэстаранаў першых, другіх, трэціх блюд і дэсертаў з бульбы павінна быць не менш як 30 назваў, у кафэ і сталовых — не менш як 15 назваў. Шырэй папулярызаваць спіртныя напіткі з бульбы.

9. Вучоным Акадэміі навук РБ паскорыць доследныя работы па вывядзенню новых радыяцыйна-, мароза- і сонечнаўстойлівых гатункаў бульбы з тым, каб атрымліваць яе ўраджай 3—4 разы на год.

10. Міністэрству ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь забяспечыць прымусовую мабілізацыю насельніцтва на ўборку ўраджаю бульбы з палёў саўгасаў і калгасаў, а таксама прысядзібных участкаў грамадзян. Да тых, хто адмаўляецца вырошчваць або ўбіраць бульбу, прымаць самыя жорсткія меры, для чаго ўнесці адпаведныя змены ў Працоўны, Адміністрацыйны і Крымінальны кодэксы РБ.

11. Камітэту Дзяржаўнай Бяспекі РБ весці непрымірымую барацьбу з агентамі сусветнага імперыялізму — каларадскімі жукамі, знішчаючы іх прама на палях без суда і следства.

12. З дня апублікавання гэтай пастановы зацвердзіць назву нашай рэспублікі ў наступным выглядзе: Рэспубліка Бульбарусь (РБ).

**Адказны за распаўсюджванне пастановы Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў РБ у беларускім друку**

**Станіслаў СУЛКОЎСКІ.**

## Фразы

✦ Формулу «грошы — тавар— грошы» спрасцілі да немагчымасці: «грошы, грошы, грошы».

✦ Сацыяльнае паходжанне: са слуг народа.

✦ У тым, што мы гаворым адно, а робім другое, ёсць свая логіка.

✦ Некаторыя законы не маюць не толькі зваротнай сілы, але і прамой.

✦ Каб не столькі памылак, можна б было падумаць, што мы нічога не рабілі.

✦ Думка пра тое, што недзе жывуць так, як нам і не снілася, часта бывае прычынай бяссонніцы.

**Мікола ЛЯВІЦКІ.**

## «Пытальнік-2»

**Як вядома, у «Звяздзе» ёсць рубрыка «Пытальнік», дзе даюцца адказы на шматлікія пытанні чытачоў. «А чым мы горшыя?» — спыталі самі ў сябе складальнікі «Смехатэрапіі» і вырашылі адкрыць на яе старонках альтэрнатыўную рубрыку пад назвай «Пытальнік-2».**

### ЦІКАВІЦЦА ГАННА КАРЭНІНА

**Ці можна трапіць пад цягнік на Беларускай чыгунцы?**

**Аня КАРЭНІНА. г. Гродна.**

Шчыра кажучы, значна лягчэй трапіць пад цягнік, чым на цягнік.

### ТАЙНА БУДЗЕ ЗАХОЎВАЦЦА

**Як вы думаеце, ці ўдасца захаваць у тайне ўмовы і тэрміны грашовай рэформы на Беларусі?**

**М. ТАЛЕРАЎ. г. Гомель.**

Напэўна ўдасца, калі тыя, хто будзе адказваць за гэту справу, за некалькі дзён да рэформы закрыюць сваіх жонак у ванным пакоі і не будуць іх адтуль выпускаць.

### НАГАДВАЕМ ФОРМУЛУ

**У школе па хіміі меў «двойку», таму нагадайце, калі ласка, хімічныя формулы вады і гарэлкі.**

**Д. МЕНДЗЯЛЕЕЎСКІ, г. Мінск.**

Калі ласка. Хімічная формула вады —$H_2O$. Хімічная формула гарэлкі — аж сто пяцьдзесят рэ о-оо!

## Куток цешчы

— Заўтра вечарам прыходзьце да мяне, я вам абяцаю незвычайнае відовішча, — гаворыць мужчына сваім сябрам. — Вы ўбачыце сапраўдную барацьбу двух дзікіх звяроў.

— У цябе дома?

— Так. Заўтра я буду ставіць п'яўкі сваёй цешчы.

***

Узбуджаны мужчына забягае ў аптэку:

— Мая цешча хоча атруціцца пацучыным ядам!

— Прабачце, — адказвае аптэкар, — у нас няма проціяддзя.

— Ды прычым тут проціяддзе! Мне патрэбен пацучыны яд.

***

У фокусніка быў нумар, пад час якога ён распілоўваў у скрыні сваю жонку. Адзін раз жонка захварэла і папрасіла сваю маці замяніць яе. Тая з ахвотай згадзілася і ў той жа вечар не дачка, а яна легла ў хітрую труну. Фокуснік выйшаў на сцэну і ўрачыста звярнуўся да публікі: «Сёння маёй партнёркай будзе не жонка, а цешча. Прашу паверыць і кажу вам шчыра, што на гэты раз усё будзе без ашуканства».

***

— Алё, доктар, мая цешча разбіла сабе сківіцу!

— Зараз я прыеду.

— Не трэба так спяшацца. Прыязджайце праз пару тыдняў, я трохі адпачну ад яе размоў.

## З «законаў Мэрфі»

**Правіла суседства па пакоі.** Той, хто дае храпака, засынае першым.

**Закон заапаркаў і музеяў Джоўнса.** На самым цікавым экспанаце не бывае шыльдачкі з назвай.

**Скарга Чэйтса.** Калі вы дапамагалі сябру ў бядзе, ён абавязкова ўспомніць пра вас, калі зноў трапіць у бяду.

**Закон Мэрфі.** Калі непрыемнасць можа здарыцца, то яна здараецца.

**Мал. Віктара ДУБОВІКА.**

